Прачытай сам і перадай другому.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 95 (4553)**

1 снежня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.






# Народная Воля

**Дзяржаўны доўг Беларусі з пачатку года вырас на 13 мільярдаў рублёў. Хто будзе аддаваць пазычаныя ўладай грошы?!**

АКАЯННЫЯ ДНІ

## Волю народа – не задушыць!

Адразу скажам: калі Лукашэнка і яго атачэнне думаюць, што з надыходам зімы пратэстныя акцыі, выкліканыя беспрэцэдэнтнымі фальсіфікацыямі вынікаў галасавання на прэзідэнцкіх выбарах, удасца задушыць, то яны глыбока памыляюцца. І гэта пацвердзіў пазаўчарашні дзень. Надвор'е ў нядзелю было надзвычай неспрыяльнае для выхаду людзей на вуліцы – снег, галалёд, нізкая тэмпература. Аднак "Маршы суседзяў" у Мінску адбыліся. Нягледзячы на тое, што ў горад з самага ранку былі сцягнуты велізарныя сілы АМАПа, спецтэхніка, вадамёты. Фактычна быў перакрыты доступ да ўсіх месцаў, у якіх можна было б сабрацца вялікай колькасці людзей. Таму пратэстоўцы фарміраваліся ў лакальныя калоны і дзейнічалі ў межах сваіх мікрараёнаў. Сказаць, якая агульная колькасць актыўных грамадзян узяла ўдзел у "Маршах суседзяў", складана, але факт: сталіца бурліла да самага надвячорка. Дарэмнымі былі забараняльныя высілкі тых, каму народныя пратэсты – костка ў горле.

У Мінску бліжэй да 11 гадзін перастаў дзейнічаць мабільны інтэрнэт.

У хуткім часе станцыі метро "Плошча Перамогі", "Кастрычніцкая", "Плошча Якуба Коласа", "Купалаўская", "Няміга" былі перакрыты на ўваход і выхад, цягнікі на іх не спыняліся.

Прыйшло паведамленне, што ў мікрараёне "Малінаўка" арганізавалася даволі вялікая калона. Людзі маршыравалі пад бой барабанаў.

Неўзабаве адбылося жорсткае сутыкненне пратэстуючых грамадзян з "чорнарубашачнікамі" ў Браўлянах. Паводле інфармацыі відавочцаў, там чуўся выбух святлошумавой гранаты, таксама быў выкарыстаны слёзатачывы газ. У раёне мятро «Уручча» стралялі гумавымі кулямі, і быў паранены 29-гадовы праграміст.

Сілавікі пераследавалі пратэстуючых не толькі на вуліцах, але і ў дварах. Калі яны з'явіліся побач з дамамі на вуліцы Лабанка, жыхары крычалі ім з балконаў: "Убирайтесь!"

Па ўсім Мінску гойсалі сілавікі, але спыніць пратэсты ім так і не ўдалося. Разганялі людзей у адным месцы – яны праз некалькі хвілін збіраліся ў іншым. Здараліся жорсткія сутыкненні грамадзян з АМАПам і падраздзяленнямі іншых ваенізаваных структур. Некалькіх збітых дэманстрантаў давялося нават прыводзіць у прытомнасць.

У нядзелю пратэстныя акцыі прайшлі не толькі ў Мінску, але і ў шэрагу іншых гарадоў Беларусі. Паводле дадзеных праваабаронцаў, па ўсёй краіне было затрымана амаль 420 чалавек. У пастарункі трапілі лекар-неўролаг Руслан Бадамшын, вядомы эканаміст, член Каардынацыйнай рады Дзмітрый Крук, кандыдат сельскагаспадарчых навук 75-гадовая Іраіда Міско, выканаўца галоўнай ролі ў фільме "Купала" Алена Гіронак (Пабягаева), маці пяцярых дзяцей Іна Дабратвор і многія-многія іншыя.

Сумленныя беларусы вось ужо чацвёрты месяц патрабуюць адстаўкі Лукашэнкі і правядзення новых, па-сапраўднаму дэмакратычных выбараў, вызвалення палітвязняў, а таксама адказнасці за збіванне і катаванне мірных дэманстрантаў.

**Антон ШУЛЯКОЎСКІ.**











УЧОРА

## Як сілавікі бегалі за пенсіянерамі…

*Гэта ж трэба: традыцыйны марш сталічных пенсіянераў стаў учора галаваломкай для пломы розных "чорнарубашачнікаў". То ў адным месцы, то ў другім перад людзьмі сталага ўзросту паўставалі сілавікі пры поўнай амуніцыі, не даючы магчымасці ісці ў бок плошчы Якуба Коласа. Разбіваючы на невялікія групы, яны акружалі пенсіянераў, быццам бралі ў палон. У рэшце рэшт адбыліся затрыманні, некалькі чалавек даставілі ў пастарунак.*








ПРАТЭСТ

## Далучыліся да страйку…

Учора страйкам салігорскага "Беларуськалія" паведаміў, што да палітычных патрабаванняў, сярод якіх адстаўка Лукашэнкі і новыя прэзідэнцкія выбары, далучыліся:

– **Антаніна Уюхіна**, аператар запраўвачных станцый ПУУСТ рудніка 3-га рудаўпраўлення;

– **Аляксандр Макаед**, электраслесар па рамонце абсталявання 4-га рудаўпраўлення;

– **Андрэй Батуеў**, машыніст горных машын рудніка 3-га рудаўпраўлення.

Агулам колькасць удзельнікаў страйку на "Беларуськаліі" набліжаецца да 100 чалавек.

КАМУ ВЕРЫЦЬ?

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:



– Лістапад месяц – цікавая пазіцыя ўкраінцаў, я выбраў адмыслова па Украіне. Кулеба *(міністр замежных спраў Украіны. – **Рэд.**)* заявіў кіраўніку МЗС Германіі (цытата): "Мы губляем нашы магчымасці, не прадпрымаючы рашучых мер (у Беларусі). Еўрасаюзу варта ўвесці сур'ёзныя санкцыі супраць Беларусі, каб паралізаваць дзейнасць дзяржавы, бізнесу і вытворчасцяў". Ім што трэба? Мы ж заўсёды… Нават расіяне на мяне заўсёды крыўдзіліся: "Ну чаму ты ўкраінцаў падтрымліваеш?"

*(Сказана падчас наведвання 27 лістапада бальніцы №6 у Мінску.)*

## Дзмітрый КУЛЕБА, міністр замежных спраў Украіны:



– Ніякіх такіх слоў у нашых размовах з Хайка Маасам не гучала. Я прынцыпова супраць таго, каб "душыць Беларусь", яе бізнес і вытворчасць. Я, наадварот, за тое, каб даць Беларусі дыхаць свабодна.

ЭКАНОМІКА

# Даўгі і прыбыткі беларускіх заводаў

*Колькі зарабілі прамысловыя гіганты за студзень–верасень і колькі яны вінныя па крэдытах?*

*БелАЗ*

Са студзеня па верасень прамысловы гігант БелАЗ, паводле справаздачы, апублікаванай на інтэрнэт-партале ўрада, зарабіў 15,9 мільёна рублёў. Гэта ў 13 разоў меней, чым за такі ж перыяд мінулага года. У завода на 337 мільёнаў доўгатэрміновых крэдытаў і пазык. А летась было толькі 34 мільёны. За год доўг вырас у 10 разоў.

*МТЗ*

15,5 мільёна рублёў са студзеня па верасень зарабіў МТЗ, абодва ўтрая меней, чым за такі ж перыяд летась. У завода на 530 мільёнаў крэдытаў і пазык, за год даўгі выраслі на 67 мільёнаў.

*БМЗ*

34 тысячы рублёў са студзеня па верасень зарабіў Беларускі металургічны завод. Летась прыбытак за такі самы перыяд быў яшчэ меншы – 17 тысяч рублёў. Завод вінен 1,1 мільярда рублёў па доўгатэрміновых крэдытах і пазыках. За год гэты паказчык вырас на 73 мільёны.

*«Гомсельмаш»*

Са студзеня па сакавік вытворца камбайнаў спрацаваў са стратамі на 260 мільёнаў рублёў. Летась у такі ж перыяд страты былі на ўзроўні 13 мільёнаў. У гэтага прамысловага гіганта на 1,2 мільярда крэдытаў і пазык. За год гэтая сума вырасла на 274 мільёны.




*Мінскі электратэхнічны завод імя Казлова*

Са студзеня па верасень чысты прыбытак Мінскага электратэхнічнага завода імя Казлова – 4,1 мільёна рублёў. Завод вінен па крэдытах і пазыках 4,2 мільёна. За год прадпрыемства зменшыла доўг на 2,5 мільёна.

*Мінскі інструментальны завод*

Са студзеня па верасень Мінскі інструментальны завод зарабіў 141 тысячу рублёў. У завода на 476 тысяч доўгатэрміновых пазык і крэдытаў. За год даўгі выраслі на 97 тысяч.

### Што адбываецца з экспартам прадукцыі?

Экспарт машын, абсталявання і транспартных сродкаў з Беларусі за студзень–верасень у параўнанні з такім жа мінулагоднім перыядам упаў на 14%, экспарт мінеральных прадуктаў – на 38%.

Экспарт чорных, каляровых металаў і вырабаў з іх знізіўся на 13,7%, экспарт хімічнай прамысловасці – на 6%, экспарт тэкстылю і вырабаў з яго ўпаў амаль на 20%.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ:

# «Адвёз у ізалятар тры скрыні кніг…»

*Сын экс-старшыні Вярхоўнага Савета распавёў "Народнай Волі", за што трапіў у ізалятар на 10 сутак.*

4 лістапада стала вядома, што ля пад'езда ўласнага дома быў затрыманы 36-гадовы прадпрымальнік Станіслаў Шушкевіч, сын першага кіраўніка Беларусі. У выніку яго асудзілі на 10 сутак…

– Мяне пакаралі толькі за тое, што зрабіў рэпост з крыніцы, якая, як аказалася, прызнана ў Беларусі экстрэмісцкай, – кажа **Станіслаў ШУШКЕВІЧ.** – Далей было затрыманне, суд, "суткі" ў ізалятары. Непрыемна, безумоўна, але нейкай брутальнай жорсткасці ў дачыненні да мяне не было.



Я, можа, і не чакаў, што за рэпост мяне адправяць на 10 сутак у камеру, але маю грамадзянскую пазіцыю з мяне такім чынам ўсё роўна ж не выб'еш. У мяне ёсць свае погляды на тое, што адбываецца ў краіне, і іх не зменіць ні суд, ні турэмная камера.

Дарэчы, суд па маёй "тэрарыстычнай" справе прайшоў па скайпе даволі хутка – гэты "гучны працэс" заняў усяго 5–7 хвілін. Мяркую, пасля таго, як адсядзеў 10 сутак, у гэтай справе канчаткова пастаўлена кропка.

**– Пасля суда вас адправілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна?**

– Там правёў усяго суткі, бо не хапала месцаў, а таму мяне і некаторых іншых перакінулі ў Жодзіна. Відаць, вызвалялі камеры для наступнай партыі затрыманых, рыхтаваліся да чарговага маршу.

Раней казалі, што ў Жодзіне і Баранавічах "больш чалавечныя" ўмовы ўтрымання, але хачу сказаць, што паўсюль умовы сталі прыкладна аднолькавыя. Хіба што ў ізалятары ў Жодзіне вада крыху лепшая – вось і ўсё адрозненне.

А стаўленне да затрыманых і там, і там як да нейкіх злачынцаў. Мне вядома пра здзекі, якія прыдумлялі супрацоўнікі ізалятараў, і гэта прымушае сумнявацца ў адэкватнасці гэтых людзей. Чалавечнасці там і блізка няма.

Затое вельмі цешыла публіка ў камеры – амаль усе з вышэйшай адукацыяй, інтэлігенты, моладзь, медыкі, кіраўнікі арганізацый. Усе разумелі, чым яны рызыкуюць, але не маўчалі і не займалі страусіную пазіцыю – галаву ў пясок.

Дарэчы, зараз, пасля ізалятара зноў сяджу ў ізаляцыі, бо ёсць апасенне, што мог у камеры захварэць на каранавірус. У пяці чалавек, з якімі быў у камеры, COVID-19 ужо пацвердзіўся.

Безумоўна, складана ў невялікім памяшканні, дзе сядзяць дзесяць чалавек, захоўваць нейкую дыстанцыю. Ды і сядзець там забаранялася, практычна ўвесь час на нагах.

**– У камеры ведалі, што вы – сын першага кіраўніка Беларусі?**

– Не люблю гэта афішаваць, але з цягам часу усе і так даведаліся – там жа называюць імя і прозвішча. Увогуле, у нас была проста цудоўная кампанія.

**– Пасля выхаду на волю вас сустракалі валанцёры?**

– І валанцёры сустракалі, і мой сябра. Я, дарэчы, першай справай з'ездзіў на лецішча і адвёз у Жодзінскі ізалятар тры скрыні кніг.

Як ужо казаў, зараз там знаходзяцца людзі пераважна інтэлігентныя, а знайсці добрую кнігу ў мясцовай бібліятэцы – тая яшчэ праблема. Асабіста я чытаў тую літаратуру, што перадалі з волі, хаця спачатку спрабаваў узяцца за Дар'ю Данцову. Нават старонку не змог дачытаць…

**Алесь СІВЫ.**

ПЕРСОНА

## Татьяна СИНИЦА, психолог:

# «Сотрудники РУВД утонули в бумажной суете и обесчеловечены до предела»

*Кандидата психологических наук, доцента факультета философии и социальных наук БГУ **Татьяну СИНИЦУ** задержали в один из понедельников. Она стояла на проспекте Независимости, где только что прошел Марш пенсионеров. В результате уважаемый доцент оказалась на Окрестина. Затем состоялся суд, своей вины Татьяна Ивановна не признала, но была тем не менее оштрафована на 30 базовых величин – 810 рублей. Мы попросили педагога и ученого рассказать о своем недавнем опыте, полученном в РУВД и СИЗО, и о наблюдениях за дикой правовой свистопляской, которая происходит в нашей стране.*

**– Какая обстановка сейчас на вашем факультете, на кафедре? Университет реагирует на задержания своих профессоров и доцентов?**

– Реагирует – у меня уже два дисциплинарных взыскания. Но увольнений по политическим причинам БГУ, думаю, себе не позволит. Администрация найдет другие основания, они хотят сохранить хорошее лицо.

**– А за что взыскания?**

– Первое взыскание – за рисунки. На переменах или после занятий мы со студентами занимались арт-терапевтическим изо: ребята рисовали свои представления о будущем, чтобы быстрее пережить неприятные переживания реальности. Потом мы развесили их на стене с помощью малярной ленты. Декан Гигин утверждал, что этой лентой мы испортили стену, и потребовал написать объяснительную.

**– Какой хозяйственный декан!**

– Второе взыскание получила за организацию встречи студентов с деканом. В конце сентября ОМОН задержал наших ребят, а потом их, 17-летних, избили прямо в микроавтобусе. Родители водили своих детей на медицинское освидетельствование, которое зафиксировало сотрясение мозга, перелом носа… Другие студенты, их сокурсники, были потрясены, возмущены, они в разговоре со мной просили, требовали, чтобы университет на это отреагировал, чтобы понесли наказание те, кто применил силу. Ко мне студенты обратились с просьбой поддержать их.

Я взялась организовывать встречу с деканом. Чтобы всех оповестить, ходила по аудиториям. И меня обвинили в том, что я нарушаю учебный процесс. Но у студентов все-таки состоялся разговор с Вадимом Францевичем Гигиным. Я считаю, что это был хороший, конструктивный разговор. Он, конечно, не привел к тем результатам, которые мы хотели получить, – например, чтобы в прокуратуру от БГУ был послан запрос, письмо, нота… Но во всяком случае это был диалог. Студенты хотя бы почувствовали, что педагоги не замалчивают проблему, что за них кто-то заступается, что о насилии говорят вслух…

**– И после этого вам опять вынесли взыскание?**

– Да, взыскание от ректора, так как на меня пришла докладная от декана.

**– Ого, декан Гигин просто изощренный чиновник, он виртуозно подвел вас под взыскание. Боится, что может потерять свою должность?**

– Боится он, боятся многие начальники. И ведут себя недальновидно. Страх сковывает их мысли. Потому что, если хоть немножко знать историю, можно предугадать, чем заканчиваются политические кризисы, в которых так отчетливо выражен морально-этический аспект.

**– Вы не пытались поговорить с Гигиным лично?**

– Да, я заходила к нему. Мы остались каждый на своих позициях. Его точка зрения – во что бы то ни стало сохранить систему. Ложь? Так всегда было и будет. «Что, вы раньше об этом не знали?» Я ответила, что знала и всегда была против подобного положения вещей. Я считаю, что никакое государство не может стоять на лжи. А у него другая позиция. Альтернативная. Что правды нет нигде в мире, что надо успокоиться и принять существующее положение вещей.

**– Как проявили себя ваши коллеги? У многих такая же «альтернативная» точка зрения?**

– Не думаю, что среди психологов много людей выступает за сохранение системы. Большинство как раз хорошо понимает, в какую сторону надо действовать. Может быть, они открыто это делать не могут, не буду никого судить, у каждого свои обстоятельства, свой уровень возможностей перенести стресс.

**– У вас были отчисления студентов?**

– На тех факультетах, где я преподаю, нет. Были лишения стипендий за пропуски. Хотя надо еще отследить, что будет с этими учащимися, как будет складываться судьба тех, кто отсидел на «сутках».

**– Вы как преподаватель имеете право разговаривать со студентами на политические темы?**

– Наш университет сейчас позиционирует себя вне политики. С нами не раз проводились профилактические беседы, на которых повторяется одно и то же: это – политика, зачем вы туда лезете? А я утверждаю, что насилие – это не политика, а морально-этическое понятие. И я не влезаю в политику. Восстановите правовые основы жизни людей, и тогда мы, преподаватели, сможем спокойно работать. Я не могу отрешенно работать со студентами, не упоминая важные основы жизни человека в обществе. Я не говорю о политике, я говорю о личности, основах морального поведения человека. Я даже могу не использовать это провокационное сейчас слово «политика», но это ничего не меняет в нашей ситуации.

**– А что студенты в своей общей массе? Каковы их настроения?**

– Студенты однозначно не поддерживают произвол. Когда меня задержали, я получила от студентов много писем, открыток – я просто сидела и рыдала. Глубокие слова, искренняя поддержка. Они писали: «Татьяна Ивановна, вы не думайте, что нам все равно, если мы не так активно себя проявляем».

**– Кажется, в начале осени было заявление ректора БГУ о том, что университет – свободное пространство, что разные мнения приветствуются.**

– Ну что ж… По поступкам судим мы людей, а не по заявлениям. Когда наших студентов задержали, университет их не защитил. Университет закрыл перед студентами ворота, чтобы они, вышедшие в тот день на забастовку, не могли войти в университетский дворик и тем самым спастись от омоновцев.

**– Администрация побоялась, ведь тогда будет считаться, что забастовка была на территории университета, да?**

– Да. И многих в тот день задержали.

**– Вы тоже побывали в стенах РУВД. Вам удалось с кем-то из милиционеров поговорить, чтобы понять, чем дышит служивый народ?**

– Я постоянно с ними разговаривала и старалась держать ровную эмоциональную планку. К счастью, у меня на тот момент это получалось. В РУВД я со всеми старалась здороваться и узнавать, как зовут. Они отвечали на приветствия, но в основном называли себя только по имени. Следователь тоже не собирался полностью представляться, если бы я не попросила его об этом. Он даже, как мне показалось, как-то встрепенулся – вроде, оказывается, человек перед ним, – когда услы-



шал мое приветствие. Они там утонули в бумажной суете и обесчеловечены, обезличены до предела. Им не хватает бумаги, заканчивается порошок для принтера. Все кувырком: «А кто ее повезет?» Машины не было, меня спихивали друг на друга. Я слышала, как люди совершенно по-бытовому, «цивильно» раздражались: «А почему я?» Наконец я предложила: «Ну давайте я сама пойду на Окрестина». Все они в РУВД хотят домой и злятся на нас: «Чего вы всё ходите и ходите?! У нас из-за вас столько работы!..»

**– Мда, казенный дом…**

– Парень-стажер, который меня опрашивал, и парень, который охранял, – я не могу сказать, что это замшелые чурбаны, к которым невозможно достучаться. Вполне вероятно, что они шли в правоохранительные органы с идеалами, они изучали право, заканчивали Академию МВД. Один из них, представьте, выглядел расстроенным, переживал, что так низко упала репутация правоохранительных органов, даже осторожно спрашивал, что же теперь делать. Я отвечала, что, прежде всего, начать соблюдать законы, Конституцию, действовать корректно по законодательству, не допускать насилия. Потому что придет время – и все нарушители будут обязательно наказаны. Вообще я увидела, что часть сотрудников стараются по возможности смягчить пребывание людей в РУВД – и об этом тоже надо знать. Потому что если вслух говорить только об издевательствах – а они, конечно, были, были, – но если говорить только об этом и ежедневно, то мы себя тяжело травматизируем снова и снова. Конечно, суд над преступниками обязательно состоится. Но лично я не буду преувеличивать, мне хамили по минимуму.

**– У вас ведь и муж был задержан через неделю после вас, и несовершеннолетний сын. Какая сейчас в семье атмосфера? Наверное, как после кораблекрушения?**

– Наоборот! Поддерживаем друг друга и высмеиваем тех, кто пытается задушить народный протест.

**– Кто, по-вашему, из оппозиционных политиков наиболее понятен массам, наиболее сейчас популярен?**

– Мне кажется, сейчас у нас нет одного-единственного лидера, который имеет супервлияние на массы. Зато повышается ответственность каждого отдельного человека. Кто ты, что ты можешь сделать? Как бы ты хотел, чтобы строилась в будущем наша жизнь? Что ты можешь для этого сделать прямо сейчас? Вот упрекают Светлану Тихановскую, что у нее нет четкой программы. А я как раз считаю, что это интересная ситуация. И я как психолог скажу, что это провоцирует любого человека на поиск опоры прежде всего в своей личности. Ты сам теперь ответственен за свою жизнь. И понимаешь, как слаб человек, если он один, и начинаешь взаимодействовать с другими. Это уникальная ситуация. Что касается лидеров, то, мне кажется, Тихановская очень хорошо себя проявляет – по-человечески прежде всего.

**– Удивительно, но с ней есть какая-то внутренняя связь.**

– Когда Роман Бондаренко умер и об этом стало известно, Тихановская сказала убитой горем матери психологически совершенно правильные слова: «Я не представляю, какой ужас чувствует мать, которой приходится хоронить собственного ребенка…» И это страшная, но чистая правда: невозможно понять такую утрату, как гибель ребенка, если сам такого не пережил. Говорить в таких случаях «Как я вас понимаю!» – цинично. Так что сердце матери подсказало Светлане точные слова: «Я не могу понять, что вы сейчас чувствуете… Могу только предположить…» Это честные слова. У нее есть боль за людей и понимание ограниченности своих возможностей. И в то же время она не опускает руки, делает все, что может. Это очень достойная позиция.

**– Несколько дней назад Светлана Тихановская выставила на продажу БЧБ-флаг со своей подписью. Некоторых это шокировало – например, бывшего кандидата в президенты Анну Канопацкую. Она предложила Светлане лучше продать свое нижнее белье (на мой взгляд, очень вульгарно). А вы как на все это реагировали?**

– Не вижу ничего низменного в поступке Тихановской. Я сказала бы, что Тихановская закрепила свой статус этим поступком: есть флаг и есть ее, человека, за которого проголосовало большинство, подпись на флаге. Это знаковое событие. Не вижу в этом ничего ужасного. Тем более что это символический жест. Светлость помыслов Тихановской очевидна: она не жаждет власти, не старается построить собственную карьеру. У нее нет претензий, она всего лишь проводник народного протеста, но именно это дает возможность нам сейчас чувствовать себя более сильными.

**– Вообще наши белорусские женщины проявились ярко, мощно, неожиданно, правда?**

– Женщины Беларуси всегда могли взять на себя тяжелую ношу – сколько раз войны забирали у них мужчин! И сейчас женщины тонко уловили, почувствовали, что нужно срочно минимизировать насилие. Мужчины как устроены? Есть удар – есть ответ. А женщины устроены по-другому. Они – матери, а значит, умеют сосочувствовать всем. Именно поэтому женщины вышли на первый план.

**– Как вы думаете, как общество в целом будет встречать Новый год? Можно ли отдаться празднику, когда в стране люди за решеткой и на душе тяжесть, горечь?**

– Человек должен уметь удерживать в себе противоречивые чувства. Именно тогда он становится глубже. Опять-таки это уникальная ситуация для нас как для народа – двигаться к светлому, к цели, несмотря на то, что на душе боль и горе и кошки скребут. У нас в истории было много таких темных периодов, и мы научились это все перекапывать, чтобы не исчезнуть. Более того, в этом году мы почувствовали огромную радость от того, что мы – единомышленники. Марши выбили в массах настоящую творческую искру. Кстати, это огромная психотерапевтическая победа – радость от единения. Именно в такие моменты возникает наша зрелость как народа. С одной стороны, понимаешь трагедию сегодняшнего этапа и в то же время продолжаешь действовать, жить, дарить близкому радость. Праздник должен быть. Но внутри у каждого должна быть твердая линия на освобождение людей. Тогда будет настоящая радость.

**Елена МОЛОЧКО.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Почему все усилия Каллаура пошли прахом…

История появления и становления белорусского рубля как национальной денежной единицы суверенной Беларуси характеризовалась в основном двузначной инфляцией. За редким исключением в отдельные годы Беларусь занимала первое место по уровню инфляции среди стран СНГ. Параллельно наш рубль испытывал и девальвационные шоки: в начале 2009 года официальная девальвация к доллару на 20,5 процента и на 30 процентов за год, в 2011-м катастрофическая девальвация в 2,8 раза и двукратная инфляция, в 2015-м «зайчик» обесценился к доллару на 56%. Ни одна страна СНГ так не «провалила» свою национальную денежную единицу, как это сумели сделать денежные власти Беларуси.

И только с приходом в Нацбанк команды его председателя П.Каллаура в конце 2014 года началось оздоровление белорусского рубля. Уровень его инфляции снижался до исторического минимума менее 5% в годовом измерении, осуществлялась дедолларизация экономики. Валютные вкладчики среди населения, доля вкладов которых в банковской системе достигала трех четвертей всех депозитов, «пошли в рубль». В результате доля валюты в денежном обращении страны, достигавшая 60%, стала снижаться. Однако с наступлением августа 2020 года все эти усилия Нацбанка пошли прахом.

Девальвация на фоне «коронакризиса» белорусского рубля к доллару на 25,2% в марте текущего года, затем опять на 26,3% в августе на фоне политического кризиса, спровоцированного фальсификацией результатов выборов, вызвала ажиотажный спрос на иностранную валюту и отток рублевых да и валютных вкладов из банковской системы. На 1 ноября по сравнению с началом года объем рублевых депозитов сократился на 589 млн рублей, а объем валютных вкладов и того пуще – упал на 1 миллиард 476 млн долларов. Самое интенсивное бегство вкладчиков из банковской системы как раз было отмечено в августе после выборов. Обесценение рубля к доллару более чем на 25% перечеркнуло самые высокие доходы рублевых вкладчиков на так называемых безотзывных вкладах, на которые люди повелись в очередной раз. Достаточно было просто хранить валюту под подушкой.

Помимо срочных вкладов продолжали сокращаться и так называемые переводные депозиты. Это остатки денежных средств на расчетных счетах предприятий, на зарплатных карт-счетах населения, что говорит об общем ухудшении состояния белорусской экономики. Так, с начала года переводные рублевые депозиты уменьшились на 299 млн рублей, валютные – на 155 млн долларов.

Если бы не введение в банковскую практику безотзывных депозитов, что во многом позволило сохранить в банковской системе 4,5 млрд рублей и 4,7 млрд инвалюты в долларовом эквиваленте, банки остались бы совсем без ресурсов для кредитования экономики.

Чтобы как-то исправить положение и не остаться совсем без кредитных ресурсов, банки стали резко повышать депозитные ставки на срочные вклады. Средняя ставка по новым валютным депозитам на срок до года возросла с 2 до 3 раз и достигла 1,02% годовых, а на срок свыше года увеличилась примерно в 1,5 раза до 1,81%. Можно найти валютные ставки и под 2,5%. Однако они остаются чрезвычайно низкими для белорусской экономики, чтобы вернуть в банки сбежавших валютных вкладчиков. Такие ставки характерны для банков развитых экономик, где низкая инфляция. Интенсивно повышаются и ставки по рублевым вкладам – до 18–20% годовых и более. Это в 2–2,5 раза выше, чем год назад. Причем наибольшими ставками банки заманивают население на краткосрочные вклады на три месяца, понимая, что сегодня стимулировать вкладчика отдать деньги на более длительные сроки мало реально.

И чего только не придумывают менеджеры банков, чтобы заманить, вернуть вкладчиков! «Беларусбанк» до конца года предлагает физлицам разместить депозит и получить сниженные ставки по кредитам, «Белинвестбанк» просто раздает мобильные телефоны тем вкладчикам, которые переоформят на другой срок крупный вклад. Однако доверие к банковской системе в частности и к государственным институтам вообще у общества подорвано, видимо, надолго, если – при этой власти – не окончательно.

Хотя восстанавливать это доверие власти и не пытаются. Идет показательная накачка госпредприятий директивными кредитами, чем больше таких кредитов, которые оформляются указами под грифом «Для служебного пользования», тем хуже для частного бизнеса. Чем больше бюджетных денег идет силовым ведомствам, тем их меньше на инвестиции и социальные нужды.

Уже приостановлено сотрудничество Беларуси с МВФ, Всемирным банком, ЕБРР, другими западными международными финансовыми институтами. На все наплевать. Сейчас у власти одна задача – спасти себя. Какая там экономика! Нет у частной компании профсоюзной ячейки ФПБ – ликвидировать, бастуете – уволить, отчислить. И не имеет значения вклад этого бизнеса в экономику и то, что протестующие – высококвалифицированные, а порой и уникальные спецы. Со всеми может быть, что угодно. Налицо стратегия власти спасти саму себя любой ценой.



СЛОВО АНАЛИТИКУ

Вадим ИОСУБ:

# Отключение от SWIFT нанесет мощнейший удар по режиму

*Белорусские власти только тем и занимаются, что «стреляют» себе в ногу или в голову.*

Сейчас происходит обсуждение западных санкций в отношении режима Лукашенко – уже действующих и только предполагаемых. Звучат самые серьезные предложения. Отключить, например, банковскую систему нашей страны от SWIFT.



На вопрос, насколько это реально и возможно ли вообще, отвечает старший аналитик компании «Альпари Евразия» **Вадим Иосуб.**

**– О том, что система SWIFT помогает банкам одной страны перевести деньги в банки другой, знают очень многие белорусы, но что конкретно для нас означает отключение от нее?**

– Прежде всего, невозможность отправки и получения международных платежей в иностранных валютах – долларах и евро. То есть никто не сможет отправить деньги, никто не сможет их получить. Безусловно, это очень сильный удар по режиму.

Это мощнейший удар по всей экономике. Все белорусские импортеры, которые хотят что-то купить за границей, сделать этого не смогут. А экспортеры ничего не смогут продать в другие страны.

Сразу же оговорюсь: скорее всего, подобный запрет не затронет расчеты с Россией, если они будут производиться в российских рублях. При желании здесь можно создать свою систему банковских расчетов. Если россияне захотят так рассчитываться, то рубль может быть и белорусским. В чем лично я очень сильно сомневаюсь…

**– Были в истории прецеденты отключения стран от SWIFT?**

– Да, были.

В свое время от системы SWIFT были отключены банки Северной Кореи и частично банки Ирана. В обоих случаях это была реакция на создание (или угрозу создания) оружия массового поражения и финансирование терроризма.

Вопрос отключения всплывал и обсуждался в отношении России после Крыма и Донецка с Луганском. Но тогда западные страны так и не решились что-то реально сделать.

Исходя из данных прецедентов, кажется маловероятным, что это будет применено и к Беларуси.

**– В принятых санкциях звучит фраза об аресте зарубежных счетов конкретных лиц. Насколько реальна эта угроза? Есть что арестовывать?**

– Вообще, это стандартная процедура персональных санкций. Вместе с запретом на въезд всегда идет арест счетов, если эти счета будут обнаружены. Скорее всего, у тех, кто попадает в санкционный список, таких счетов нет. По крайней мере, если мы говорим о каких-то силовиках, руководителях правоохранительных органов.

Теоретически они могли бы быть у приближенных к власти бизнесменов, но, по-моему, под персональные санкции они еще не попали. Думаю, так называемые «кошельки режима», опасаясь этих самых санкций (если у них счета и были), давно всё попереводили и ликвидировали. Лично я не слышал, чтобы у кого-то из попавших под персональные санкции белорусов что-то обнаружили и арестовали.

**– Не является ли «самострелом» то, что власти арестовывают или списывают деньги со счетов тех, кому помогают различные фонды? Можно ли эту глупость как-то оправдать?**

– На мой взгляд, последние полгода белорусские власти только тем и занимаются, что «стреляют» себе в ногу или в голову. Это не в первый и, боюсь, не в последний раз. О правовом дефолте говорят все вокруг. Властями не только не соблюдается международное право, но и игнорируются белорусские законы. В том числе и право собственности.

Деньги, переведенные на счет, принадлежат владельцу этого счета. В Беларуси лишить их может только суд. По факту же деньги забирают не в результате приговора суда, а просто после какого-то указания.

У банков, которые исполняют указания об аресте средств, нет никакого выбора. Получая такие указания от правоохранителей, они не могут проверять их законность и обоснованность. Они должны исполнять.

Поэтому винить банки, наверное, нельзя. Виноваты те, кто эти письма сочиняет и отправляет банкирам.

*(«Свободные новости плюс».)*

ПАРТИЙНАЯ ЖИЗНЬ

# ОГП: юбилейный съезд с приспущенным флагом

*29 ноября в минском Международном образовательном центре прошел XX съезд Объединенной гражданской партии.*

Съезд стал вдвойне юбилейным: и номер его оказался «круглым», и накануне, 26 ноября, исполнилось 25 лет со дня регистрации ОГП. В каком же состоянии партия подошла к своему четвертьвековому юбилею?

Как следовало из отчетного доклада исполняющего обязанности председателя партии Николая Козлова, все складывается не радужно, но и не совсем плохо – если учитывать внешние обстоятельства. Под внешними обстоятельствами имелось в виду крайнее разочарование избирателей в сложившейся системе работы партий, жесткое давление со стороны власти (в ходе обсуждения неоднократно звучала такая характеристика деятельности официально зарегистрированной и вполне легальной ОГП, как «полуподпольная»). При этом даже вполне провальный проект межпартийного праймериз по выдвижению единого кандидата от правоцентристских сил характеризовался как удачный. О работе с широкими массами речь не шла вообще: массы гуляли сами по себе, а партия присоединилась к ним, как заметил сам Николай Георгиевич, «с приспущенным флагом».

Согласились со столь умеренно бодрой оценкой далеко не все. Часть делегатов съезда – преимущественно новички с небольшим партийным стажем – говорили о необходимости активизации деятельности: например, сбора 50 тысяч подписей за либерализацию законодательства, регулирующего массовые акции. Ветераны партийного строительства излучали скепсис, а о перспективах привлечения новых членов жестко сказал председатель политической комиссии ОГП Лев Марголин: дескать, наша партия строит капитализм, а где же вы найдете большое число тех, кто согласится строить его вместе с нами? Действительно, строить капитализм вместе с господином Марголиным – задача не для слабонервных. Это вам не с ОМОНом бороться.

Сторонники партийного реформирования даже выдвинули своего кандидата на пост председателя ОГП – руководителя боровлянской «первички» Ольгу Белевцову. Однако, несмотря на яркое выступление и желание придать скорость застоявшемуся партийному коню (нарисованному на партийном флаге), Белевцова была избрана лишь заместителем председателя, которым стал Николай Козлов.

**Алесь КЛЕВЧУК.**

СТАЛА ВЯДОМА

# Як КДБ Ярмошыну ў лужыну пасадзіў

Днямі стала вядома, што экс-прэтэндэнту на пасаду прэзідэнта і былому кіраўніку «Белгазпрамбанка» **Віктару Бабарыку** прад'яўлена афіцыйнае абвінавачанне.



Заўважым, што пры затрыманні Віктара Бабарыкі яму таксама інкрымінавалі частку 2 артыкула 243 – ухіленне ад выплаты падаткаў. Аднак, як відаць з паведамлення КДБ, цяпер гэта абвінавачанне ўжо не актуальна. У чэкістаў проста не атрымалася нічога «нарыць» па гэтай тэме, хаця, няма сумневаў, рабілі гэта вельмі заўзята. Але сумленнаму чалавеку, нават калі ён банкір, прад'явіць па падатках аказалася няма чаго.

Пры гэтым, як заўважае *the-village.me*, менавіта абвінавачванне ў нясплаце падаткаў стала прычынай таго, што Цэнтрвыбаркам не зарэгістраваў Бабарыку кандыдатам у прэзідэнты.

На пасяджэнні ЦВК яго кіраўніца **Лідзія Ярмошына** заявіла, што да іх прыйшоў ліст ад КДК, у якім гаворыцца, што ў 2019 годзе Бабарыка атрымаў не менш за 450 тысяч долараў, якія не задэклараваў.

«*Асабіста мая прапанова – адмовіць у рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты Бабарыку Віктару Дзмітрыевічу з-за неадпаведнасці прадстаўленай дэкларацыі аб даходах і маёмасці*», – сказала Ярмошына. І яшчэ пажартавала, што хабары нібыта ў дэкларацыю не ўносяцца.

Далей усе члены ЦВК аднагалосна прагаласавалі супраць рэгістрацыі Віктара Бабарыкі кандыдатам у прэзідэнты.

Такім чынам, мала таго, што Бабарыку незаконна не зарэгістравалі без рашэння суда, а толькі па нейкай паперцы з КДК, дык цяпер яшчэ і высвятляецца, што тая паперка аказалася «ліпай» і была прыдумана толькі як падстава для нерэгістрацыі!

Таксама першапачаткова ўлады спрабавалі абвінаваціць Віктара Бабарыку ў дачы хабару, але ў выніку змянілі абвінавачанне на «атрыманне хабару», што гучыць яшчэ больш забаўна: даюць хабар чыноўнікам, як і атрымліваюць хабар чыноўнікі, – за «патрэбнае» рашэнне па тым ці іншым пытанні. Хто і за што можа даваць хабар банкіру – пытанне ў нашай краіне, мабыць, рытарычнае.

Нагадаем: Віктар Бабарыка разам з сынам Эдуардам былі затрыманы 18 чэрвеня, калі збіраліся здаць подпісы выбаршчыкаў у падтрымку вылучэння кандыдатуры Віктара Бабарыкі на прэзідэнцкіх выбарах.

НУ І НУ!

# «Мяцежны» бар закрываюць

*Папулярны ў Гомелі бар, які даваў працу паўтара дзясяткам гараджан і штомесячна плаціў у казну каля 3 тысяч рублёў, улады закрываюць з прычыны "нядобранадзейнасці".*

У лік гарадскіх установ грамадскага харчавання, якія падпалі пад пільны кантроль, Becker Bar патрапіў 26 кастрычніка. У той дзень бар не працаваў, папярэдзіўшы наведвальнікаў, што закрыты на спецабслугоўванне, бо далучыўся праз заклік Святланы Ціханоўскай да агульнанацыянальнага страйку.

– *Пасля гэтага на нас і пасыпаліся праверкі, прадпісанні, штрафы і ўрэшце высяленне*, – расказвае дырэктар і ўладальнік установы **Сяргей Бандаровіч.**



Ужо ў дзень страйку дырэктару тэлефанавалі з упраўлення гандлю, каб высветліць, чаму бар не працуе. А праз тры дні прыйшлі з праверкай супрацоўнікі гарадскога аддзела Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

– *Напісалі шэсць пунктаў парушэнняў і далі месяц з лішнім на іх ліквідацыю*, – кажа Бандаровіч. – *Але ўжо праз два дні выклікалі і цікавіліся, як выпраўляюцца недахопы. На той момант мы пяць пунктаў з шасці выканалі, засталося толькі разабрацца з пажарнай сігналізацыяй. На мяне склалі пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне і аштрафавалі на 675 рублёў.*

Яшчэ праз два дні адміністрацыя бара наладзіла адпаведна заўвагам і сігналізацыю, якую пажарныя ўхвалілі. Тым не менш дырэктару Бандаровічу ўручылі яшчэ адзін пратакол на штраф, гэтым разам як юрыдычнай асобе. Пакаранне максімальнае – 200 базавых велічынь, што складае 5,4 тысячы рублёў.

Пасля супрацоўнікаў МНС бар наведалі спецыялісты гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі і таксама знайшлі парушэнні.

– *Нож для гародніны не меў маркіроўкі. Дакладней, яна мелася, але на чырвоным тронку нанесена была малазаўважным чырвоным колерам. Знайшлі таксама ў рондалі скол на краёчку, а яшчэ напісалі ў заўвагах, што фарба ў калідоры нясвежая. Апроч таго, запатрабавалі правесці гігіенічную экспертызу бара. Ну і закрылі нас на месяц*, – дадае Бандаровіч.

Зладжаны калектыў Becker Bar, дзе знайшлі працу і паўдзясятка інвалідаў, адолеў і новы выклік, уключаючы гігіенічную экспертызу, якой да гэтага часу ніхто не патрабаваў. Але тут падаспела нечаканасць з трэцяга боку. Камунальнае жыллёвае рамонтна-эксплуатацыйнае ўнітарнае прадпрыемства "Цэнтральнае" як уласнік памяшкання даслала паведамленне пра скасаванне ў аднабаковым парадку дамовы на арэнду. Паўпадвальнае памяшканне, якое дырэкцыя бара арандуе паўтара дзясятка гадоў і можа займаць да 2022 года, запатрабавалі вызваліць ужо 13 лістапада.

Бандаровіч тлумачыць, што сустракаўся з дырэктарам КЖРЭУП "Цэнтральнае" **Сяргеем Сазанцом**, высветляў прычыны такога рэзкага разрыву.

Прэтэнзіі, паводле яго слоў, надзвычай забаўныя. Аказваецца, Becker Bar у 2019 годзе тройчы (у студзені, красавіку і чэрвені) спазняўся з адлічэннем памесячных сродкаў (122 рублі) на капрамонт жыллёвага фонду. Не з аплатай арэнды, а менавіта адлічэннямі на капрамонт. Яны робяцца ў адпаведнасці з рашэннем мясцовых органаў улады. І самае цікавае, што ўспомнілі пра гэта ў КЖРЭУП, па сутнасці, праз паўтара года пасля падзеі.

Не ўдалося кіраўніку Becker Bar знайсці паразуменне ў камунальнікаў і наконт таго, што калектыў не ў стане за лічаныя дні вывезці абсталяванне ды іншую маёмасць, бо іх нават няма куды падзець.

Тым часам з камунальнага прадпрыемства "Цэнтральнае" прыйшло чарговае паведамленне аб тым, што бар не захоўвае санітарныя нормы. Відавочна, гэтае пасланне ўзгоднена з цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі, які выявіў хібы ў маркіроўцы нажа і сколіну ў рондалі.

Ні ў кіраўніцтва Becker Bar, ні ў яго сталых наведвальнікаў няма сумневу, што ўладныя структуры вырашылі паквітацца з "мяцежнай" установай. Бо яна не толькі падтрымала агульнанацыянальны страйк, але і давала прытулак пратэстантам супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў, на якіх брутальна "палявалі" амапаўцы ў першыя дні пратэстаў.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

**На здымку: летняя веранда Becker Bar у Дзень горада.**

